Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 22 (58) 31 мая-6 чэрвеня 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна – 2-я стар.

## Падзея тыдня

Сітуацыя ў Расійскай Федэрацыі ў цяперашні час нават больш важная, чым становішча ў Беларусі. Інакал страсцей там набліжаецца да свайго піку. Асабліва гэта відаць пры праглядзе расійскіх тэлеперадач. Змяняюцца твары кандыдатаў у прэзідэнты, месцы сустрэч з выбаршчыкамі. І, канечне ж, немагчыма не заўважыць яркую антыкамуністычную накіраванасць сюжэтаў, выкананых на высокім прафесійным узроўні. Разлічаныя на расійскіх выбаршчыкаў, яны пакідаюць след і ў галовах беларусаў. Зразумела ўсім, што прэзідэнцкія выбары 1996 года ў Расіі– апошні шанц камуністаў на рэванш. І не толькі таму, што ў асноўным іх падтрымліваюць сталыя людзі, а час, натуральна, працуе супраць іх, але і ў сувязі з тым, што перамога Ельцына і наступныя чатыры гады– цудоўная магчымасць для выйшаўшай з пераходнага крызісу эканомікі, каб прынесці рэальныя плады мільёнам расіян.

Цяперашні прэзідэнт не збіраецца саступаць сваю пасаду, упэўнена заняўшы ключавыя пазіцыі ў палітычным жыцці краіны. Чачэнская вайна– і нават тут дабіўся на сустрэчы з лідэрам апазіцыі прапынення ваенных дзеянняў з 1 чэрвеня, абышоўшы пытанне аб прадастаўленні незалежнасці гэтай рэспубліцы. У час наведвання Омска не абышоў увагай і нашу рэспубліку, заявіўшы, што ён "вымушаны даць прэзідэнту Беларусі ўрок дэмакратыі і прымусіць яго вызваліць двух апазіцыйных дзеячаў, арыштаваных пасля антыўрадавай дэманстрацыі". І, мяркуючы па апошніх падзеях, Лукашэнка прыслухаўся да гэтых слоў. Арыштаваныя лідэры БНФ Сіўчык і Хадыка вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

Прэзідэнт РБ выступіў на першым семінары кіруючых работнікаў рэспублікі. Ён завастрыў увагу на дзвюх асноўных якасцях кадраў новага тыпу: быць выдатнымі прафесіяналамі і маральна чыстымі людзьмі.

Зыходзячы з гэтых патрабаванняў кіраўніцтва дзяржавы, немагчыма зразумець два падыходы да рашэння пытання забеспячэння нафтай нашай рэспублікі. Так, у інтэрв'ю газеце "7 дней" першы віцэ-прэм'ер канцэрна "Белнафтапрадукт" Мазанік крытыкуе ідэю паставак нафты з раёнаў Персідскага заліва, бо кошт яе намнога перавышае сусветны. Даказвае, што альтэрнатывы пастаўкам нафтаправоду "Дружба" пакуль няма. А ў гэты ж час міністр знешнеэканамічных сувязей Марыніч робіць заяву аб магчымых пастаўках нафты з Ірака па бартэру за нашу машынабудаўнічую тэхніку, хімічныя валокны і ўгнаенні. Чаго тут больш, палітыкі ці эканомікі, застаецца толькі здагадвацца.

***Аляксандр УЛАДЗІН.***

## Тэма тыдня

# Гандлююць толькі "прышчэпленыя"

***МАЛАДЗЕЧНА. Ходзяць чуткі, што аддзяленне рэанімацыі перапоўнена прышчэпленымі ад дыфтэрыі. Сітуацыю па Маладзечаншчыне каменціруе Віктар Белік, галоўны ўрач РЦГіЭ:***

–Летась два чалавекі захварэлі на дыфтэрыю. Сёлета таксама два, школьнікі. Іх хутка паставілі на ногі. На 28 мая прышчэплена 61 868 чалавек. Больш зговорлівыя вяскоўцы. Да лета ўсё насельніцтва раёна ад 18 гадоў, мяркую, пройдзе прафілактыку. Дзеці прышчэпліваюцца ў школах па графіку.

Добра дапамагаюць выязныя брыгады. Ля рынку ў горадзе стаіць іх машына. Гандлююць тыя, хто прышчапіўся.

Не выкарыстоўваецца венгерскі прэпарат. Пасля яго людзі блага сябе адчуваюць: крыху вышэй за норму тэмпература, прыпухласць. Але ніхто ў рэанімацыі з жыццём не развітваўся.

Толькі што завезлі 13 літраў канадскага прэпарату.

Пажадана, каб прышчапіліся ўсе. Асабліва, калі вы працуеце ў школе, гандлі. За ўхіленне за краты не пасадзяць. Справа добраахвотная. Але трэба думаць аб уласным здароўі, членаў сям'і.

У свой час цэнтральныя газеты пісалі: ад прышчэпак паміраюць людзі. Сарака-пяцідзесяцігадовыя сапраўды паміраюць, але ад хваробы. Хто адкажа за "добрыя" парады адмаўляцца ад прышчэпак?

***Гутарыў Васіль САВІЦКІ.***

## Навіны рэгіёна

### "Баявікі" рыхтуюць зброю

***АШМЯНЫ. Пры выканкомах дзейнічаюць аддзелы па рабоце з моладдзю. Жартам іх называюць "па барацьбе з моладдзю".***

Яшчэ адным "баевіком" стала больш. Загадчык новага аддзела Сяргей Жылік, былы настаўнік гісторыі, пакуль не мае кабінета, тэлефона (завяршаюцца будаўніча-арганізацыйныя работы), але плануе работу на бліжэйшы час. Хоча правесці на базе аддзела адукацыі і цэнтра занятасці дзень прафарыентацыі. Запрасіць вучняў школ, расказаць, якія спецыяльнасці можна набыць: ПТВ рыхтуе майстроў сельгасвытворчасці, тэхнікум– бухгалтараў, юрыстаў.

Моладзь, па словах Сяргея Жыліка, у раёне застаецца. Акрамя вытворчасці ёсць мытня, пагранічная служба для тых, хто хоча рызыкі і небяспекі. У перспектыве стварэнне сацыяльна-псіхалагічнай службы. Будзе яна платная ці не, пакажуць час і сума грошай на маладзёжным рахунку.

***Васіль САВІЦКІ.***

### Любуйцеся, гімназісты, на правадыра

***МАЛАДЗЕЧНА. "Ахвярамі" супрацьстаяння мясцовай ячэйкі камуністаў і іх палітычных апанентаў, якія на помніку правадыру партыі пераможшага пралетарыяту напісалі "Кат", сталі выпускнікі беларускай гімназіі.***

Адміністрацыі навучальнай установы, перад фасадам якой месціцца гэты манумент, давялося ў тэрміновым парадку перанесці ўрачыстасці "апошняга развітальнага званка" са школьнага двара ў актавую залу.

На вялікі жаль, калі стан рэчаў у дэпалітызацыі нашай асветы захаваецца, і месца знаходжання статуі Ульянава-Леніна не будзе зменена, няма ніякай гарантыі таго, што падобнае не будзе рэгулярна паўтарацца.

***Уладлен ЧАЦВЯРГОЎ.***

### "Верым, як сабе..."

***ВІЛЕЙКА. Два разы на год– у кастрычніку і сакавіку– прыходзіць з германскага горада Оберхаўзена гуманітарная дапамога.***

Апошні раз 271 сям'ю забяспечылі адзеннем, прадметамі асабістага карыстання, яшчэ 28 атрымалі адрасныя пасылкі.

"Гуманітарка" размяркоўваецца на школу-інтэрнат для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы, агульнаадукацыйныя школы. Немцы спецыяльна арандуюць у Галандыі пансіянат, куды кожнае лета запрашаюць дзяцей на адпачынак. Сёлета дваццаць дзяцей Вілейшчыны, пятнаццаць са школы-інтэрната паедуць на месяц за мяжу.

Супрацоўніцтва стала магчымым, дзякуючы намаганням старшыні дзіцячага фонда, дырэктара СШ №3 Мікалая Гіро. "Мы яму верым, як сабе",– гавораць немцы. 14 вілейскіх сем'яў сябруюць дамамі з сем'ямі Оберхаўзена.

***Васіль САВІЦКІ.***

### Майскія падасінавікі

***МЯДЗЕЛ. Надзвычай рана з'явіліся сёлета ў нашых лясах грыбы. Па ўсім відаць, гэтаму спрыяла цёплае надвор'е ў пачатку месяца, на змену якому прыйшлі частыя дажджы. Найбольш трапляюцца людзям падасінавікі.***

Вось і аўтару гэтых радкоў пашанцавала знайсці ў бярозавым гаі ў кіламетрах трох ад Мядзела, добры дзесятак моцных і прыгожых чырвонагаловікаў. А якія яны смачныя смажаныя на сале з цыбуляй. Словамі не перадаць. Лепш пакаштаваць.

***Васіль КЛЁНАЎ.***

## "Наша слова"– газета для шляхетных людзей"

***У час, калі цэны на перыядычныя выданні шматкроць узраслі, як і на ўсё іншае, а заробкі істотна адстаюць, многім сем'ям даводзіцца ўважліва вырашаць, на якія газеты і часопісы падпісацца. Канечне, людзі ў першую чаргу падпішуцца на сваю раённую ці гарадскую газету, бо хочуць абавязкова ведаць мясцовыя навіны. Наступнай газетай, відаць, будзе нейкая агульнарэспубліканская. Лепей, каб яна была адначасова агульнанацыянальнай, ды, на жаль, пакуль пераважная большасць СМІ ці з імпэтам абслугоўвае ідэалагічныя патрэбы адпаведных чыноўнікаў, ці мае іншую партыйную афарбоўку. Адпаведнай там будзе і інфармацыя. Так што міжволі давядзецца выбіраць– праграма якой партыі каму бліжэй.***

Але ёсць агульнанацыянальная газета, якая з'яўляецца беспартыйнай і ў той жа час цвёрда падтрымлівае ў людзях грамадзянскую годнасць і павагу да агульначалавечых каштоўнасцяў, што яшчэ ў нас называюць шляхетнасцю. Гэта "Наша слова".

"Напачатку было Слова",– сказана ў Бібліі. І гэты дар Божы мае кожны чалавек. Толькі яго трэба не загубіць, а паважаць у сабе і развіваць. Надзейным дарадцам і сябрам тут стане штотыднёвік "Наша слова".

Чытачы "Нашага слова" заўсёды будуць у курсе культурна-грамадскага жыцця краіны і беларусаў ва ўсім свеце. У рэдакцыі трывалыя кантакты з лепшымі спецыялістамі Акадэміі Навук і філолагамі ўсіх універсітэтаў Беларусі, а таксама пісьменнікамі і настаўнікамі-практыкамі.

Пастаянна публікуюцца звесткі пра духоўна-рэлігійнае жыццё ў краіне. Звесткі пра кнігі, кіна- і відэафільмы, тэатр і рок-ансамблі, ёсць TV-праграма на тыдзень і многае іншае.

Нарэшце чытачы адчуюць сябе сябрамі своеасаблівага культурна-асветніцкага клуба "Наша слова" і маюць магчымасць падтрымліваць праз газету ўзаемную духоўную сувязь.

А яшчэ, пастаянна чытаючы "Наша слова", Вы не адвыкнеце ад нармальнай сучаснай літаратурнай беларускай мовы.

Кошт падпіскі на "Наша слова" у параўнанні з іншымі газетамі невялікі. Індэкс газеты– 63865.

***Эрнэст ЯЛУГІН, галоўны рэдактар газеты "Наша слова".***

## Адным абзацам

❑ Кабінет Міністраў зацвердзіў новыя правілы дарожнага руху, якія будуць уведзены з 1 верасня. У іх унесены новыя раздзелы, змяненні і дапаўненні ў ранейшыя нормы.

❑ Уводзяцца новыя ўязныя візы ў Літву. Аднаразовая будзе каштаваць ад 20 да 35 долараў ЗША ў залежнасці ад ступені тэрміновасці яе адкрыцця. Шматразовая– ад 30 да 45 долараў. Афармленне калектыўнай візы абыдзецца ў 10 долараў за кожнага члена групы.

❑ 1 чэрвеня зборная Беларусі на футболу правядзе ў Стакгольме з камандай гаспадароў першы ў сваёй гісторыі адборачны матч чэмпіянату свету. А 27 мая ў Маладзечне адбылася гульня са зборнай Азербайджана, якая скончылася з лікам 2:2.

❑ У Лебедзеўскай СШ на Маладзечаншчыне прайшоў прафесійны конкурс педработнікаў. Перамогу атрымала выкладчыца хіміі і біялогіі Наталля Купцова, якая стала "Настаўнікам года" гэтай школы.

❑ 28 мая ў памяшканні Маладзечанскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі адбылася сустрэча з маладым пісьменнікам А. Федарэнкам, аўтарам зборніка "Смута", і паэтам і бардам В. Пазнякевічам.

❑ У Чысці на Маладзечаншчыне адкрыта царква Святога Мікалая, на асвячэнні прысутнічаў мітрапаліт Беларусі Філарэт.

❑ Супрацоўнікі МТЗ адзначылі 50-гадовы юбілей прадпрыемства. Трактарабудаўнікоў павіншаваў прэзідэнт Беларусі.

❑ Заканчваецца вясна і надыходзіць самая любімая і гарачая пара года. З летам Вас!

## Доля палякаў– 60%

***У матэрыяле "Сваё лепш" ("РГ" №19) па віне няштатнага аўтара газеты Андрэя Бажко дапушчана недакладнасць. Беларуска-польскае прадпрыемства "Антанопаль" застаецца сумесным, доля польскага капітала, згодна з устаноўчым дагаворам, складае 60 працэнтаў. Асартымент каўбас і мясапрадуктаў апошнім часам значна пашырыўся і выпускаюцца яны па беларускіх рэцэптах і тэхналогіі.***

У прайс-лісце, ласкава прадастаўленым дырэктарам прадпрыемства панам Альбінам Савічам і адным з заснавальнікаў з польскага боку панам Янам Марцінякам, ёсць каўбасы "Ліпецкая", "Азёрская", "Івянецкая", "Паляўнічая", шынка, пастрама– усяго трыццаць найменняў вырабаў. СП "Антанопаль"– адзін з вядомых пастаўшчыкоў мяснай прадукцыі на Маладзечаншчыне.

Рэдакцыя "РГ" просіць прабачэння ў кіраўнікоў і заснавальнікаў СП за апублікаванне неправеранай інфармацыі. Супрацоўніцтва з аўтарам публікацыі спынена.

## Залессе Агінскіх забруджана радыяцыяй?

***СМАРГОНЬ. Каля вёсак Залессе і Зарудзічы– азярцо. Яшчэ ўвосень спусцілі ваду, выбралі рыбу. Збіраліся вадаём чысціць. Тут папаўзлі чуткі– глей забруджаны радыяцыяй. Забілі трывогу дачнікі: куды хадзіць па грыбы і ягады, дзе купацца? Дамы ў вёсках купілі– грошы выкінулі.***

"РГ" звярнулся да Аляксея Пятрова, начальніка штаба грамадзянскай абароны раёна:

–Раз у тры месяцы справаздача аб радыяцыйным становішчы кладзецца на стол старшыні выканкома. Апошнія дадзеныя па калгасу імя Леніна (в. Залессе) атрыманы два дні таму. Правераны трава парку Агінскага, вада ў вадаёмах і калодзежах, грунт– паказчыкі далёкія да гранічных нормаў. Санэпідэмстанцыя, ветлабараторыя правяраюць тэрыторыю і прадукты, што трапляюць ў гандаль. На заводзе сухога і абястлушчанага малака свая лабараторыя– кантроль сыравіны і канчатковай прадукцыі. Так што турбавацца няма падстаў.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Для тых, хто верыць Месяцу

# Месяцавы каляндар на чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн.<br>Мес. дзень | | 3<br>22.53<br>18 | 10<br>2.12<br>24 | 17<br>6.21<br>3 | 24<br>13.39<br>10 |
| Аўт.<br>Мес.дзень | | 4<br>23.40<br>19 | 11<br>2.36<br>25 | 18<br>7.16<br>4 | 25<br>14.48<br>11 |
| Сер.<br>Мес. дзень | | 5<br>24.00<br>20 | 12<br>3.03<br>26 | 19<br>8.16<br>5 | 26<br>16.01<br>12 |
| Чацв.<br>Мес. дзень | | 6<br>—<br>20 | 13<br>3.32<br>27 | 20<br>9.18<br>6 | 27<br>17.13<br>13 |
| Пятн.<br>Мес. дзень | | 7<br>0.54<br>21 | 14<br>4.06<br>28 | 21<br>10.21<br>7 | 28<br>18.27<br>14 |
| Суб.<br>Мес. дзень | | 8<br>1.22<br>22 | 15<br>4.46<br>29 | 22<br>11.26<br>8 | 29<br>19.37<br>15 |
| Нядз.<br>мес. дзень | | 9<br>1.47<br>23 | 16<br>4.44<br>5.30<br>1-2 | 23<br>12.31<br>9 | 30<br>20.38<br>16 |
| ДАТА | | 2 чэрвеня | 8 чэрвеня | 16 чэрвеня | 24 чэрвеня |
| Фаза Месяца | | 3 чвэрць поўня | 4 чвэрць | 1чвэрць маладз. | 2 чвэрць |

Усход месяца– для Маладзечна

**Крытычныя месяцавыя дні**– 9, 15, 19, 23, 29– патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтрымку светлымі сіламі.

### Месяц у заках Задыяка

| ДАТА | 1 | 3 | 5 | 7 | 9 | 11 | 14 | 16 | 19 | 21 | 23 | 26 | 28 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ |

Чэрвень выключны месяц у Авестыйскай традыцыі. Абаронца яго– Нябесны воін (Ціштрый). Татэм– Бабёр, які дае працалюбства і дамавітасць. Антытатэм– ядавіты павук, які нясе каварства, помслівасць і зло. У зараастрыйцаў увасабленнем вартавога быў свяшчэнны сабака, таму час з 23 па 28 чэрвеня атрымаў назву "сабачых дзён".

У гэтыя дні важна ачысціць свае думкі, пераадолець спакушэнні, вызваліцца ад зла.

У арыйскіх народаў праходзілі святкаванні і рытуалы, звязаныя з ачышчэннем стыхій. Такім рытуалам для нас з'яўляецца свята "Івана Купалы", свята ачышчэння агнём. Агонь– адзіная стыхія, якую не апаганіў д'ябл.

Абіцель Месяца– у Раку, адсюль яна дыспазітар Сонца. Вядома, што Сонца– Дух, Месяц– душа. Таму Дух у гасцях у Душы. У сувязі з гэтым нейкія прадчуванні могуць быць выказаны, напрыклад, так:

"Над росным лугам туманы,
Распасцерлі сляды-пакровы,
У досвіткавай цішыні,
Задумлёныя стаяць таполі.
Лясны абшар у далячы,
Тугою думкаю смуткуе,
Што хутка восень настае,
Бусы да выраю рыхтуе.
Гаротная цячэ рачуня,
На лузе вужакаю пятляе,
Аб ёй ракіты горка плачуць,
Аб долі той, што мы стваралі.
Спрамлялі рэчанькі, спрамлялі
І тым крынічкі амалялі
Навошта гэта мы тварылі
І самі мы неусведамлялі.
Цяпер журба аб росным лузе
Аб тых туманах, што калісьці,
Сонейка летняе сустракалі,
Агонь Душэўны абуджалі".

Аднак, мы не задумваемся, па-ранейшаму працягваем скідваць мазут, прамысловыя і бытавыя адыходы ў маленькія і вялікія "Ушанкі", апаганьваючы сябе і падобных да сябе, працягваем рабіць зло. Рэзаць і рваць старонкі ў энцыклапедыях і кнігах, брыдкасловіць.

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна.*

# Есці трэба кожны дзень

***АШМЯНЫ. На рынку– мяса, кілбаса розных гатункаў, куры, рыба (іншы раз і рачная), садавіна і агародніна, маянезы, кетчупы на любы густ. Цэны розныя і залежаць ад наяўнасці канкурэнцыі. Ці кінуў хто ў горадзе пальчатку рыначнаму камерсанту?***

Два магазіны і два гандлёвыя пункты масакамбіната з аднолькавай назвай "Пачастунак". Дарэчы, дырэктар прадпрыемства Тамара Філіповіч лёгка прайшла ў дэпутаты аблсавета. Людзі адчуваюць клопат аб сабе.

Магазін "Меркурый". Акрамя якасных прадуктаў там можна купіць далікатэсы. Вялікая лесвіца да ўвахода ў камерцыйную краму "Журавінка" не перашкода, каб зайсці за садавіной і агароднінай.

Магазін раённага спажыўтаварыства– наша гора. Вялікія цэны, маленькі асартымент, нізкая якасць тавараў, адсутнасць увагі прадаўцоў. У дзяржаўнага гандлю большыя плошчы і магчымасці. А справы вядзе з рук вон. Аб канкурэнцыі не можа быць ніякай гаворкі. Безумоўна, калі закрыецца рынак і фірменныя магазіны, кіламетровая чарга будзе стаяць у гандлёвыя дзяржаўныя пункты за сумніўнай кілбасой. Бо есці трэба кожны дзень.

*Тамара ЛЯВОНАВА.*

# Моладзь аб 'ядноўваецца

***МАЛАДЗЕЧНА. Тут утвораны Беларускі дэмакратычны саюз моладзі.***

БДСМ бачыць сваёй мэтай згуртаванне актыўнай і нацыянальна свядомай часткі моладзі дзеля развіцця Беларусі. Карэспандэнт "РГ" размаўляў са старшынёй БДСМ Ігарам Ляшком і яго намеснікам Сяргеем Юркевічам.

**Кар.** Вы гаворыце аб развіцці дзяржаўнасці Беларусі, а самі яе як разумееце?

**І. Л.** Гэта незалежная нацыянальная дзяржава, як паўнацэнны суб'ект аб'яднанай Еўропы, а не прыдатак Расіі.

Кар. Як утварыўся ваш саюз?

**С. Ю.** Саюз– правапераемнік Аб'яднання беларускай патрыятычнай моладзі. Утварылі яго сябры АБПМ, застаецца ўдзельнікам Савета грамадскіх Арганізацый Маладзечна.

**Кар.** Наколькі гатовы саюз да супрацоўніцтва з іншымі грамадскімі арганізацыямі?

**І. Л.** Так, з усімі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі, чыя дзейнасць адпавядае мэтам БДСМ, мы гатовы супрацоўнічаць і з дзяржустановамі па адукацыі, культуры, справах моладзі. Больш таго, мы гатовы да канструктыўнага дыялогу і з нашымі ідэалагічнымі апанентамі левага кірунку, калі нашы пазіцыі будуць супадаць, напрыклад, у абароне правоў чалавека, Кастытуцыі, дзяржаўнасці.

*Гутарыў Мікола ГАЙДУК.*

## Падпіска не спынялася

*Падпісацца на "РГ" можна ў любым аддзяленні пошты.*

**Кошт падпіскі на месяц - 4 тысячы руб., квартал - 12 тыс. руб., паўгоддзе - 24 тыс. руб.**

*Рэдакцыя мяркуе павысіць кошт газеты ў розніцу. Падпісчыкаў павышэнне цаны не закране.*

# Расклад руху

## прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 2 чэрвеня 1996 года.

### Маладзечна-Мінск (адпраўленне-прыбыццё)

*Па рабочых днях*

**4.32** **6.17**
**5.30** **7.16**
**6.08** **7.49** без прып. на пп. Селівонаўка, Крыніца Ласі
**6.31** **8.19**
**7.29** **9.17**
**8.24** **10.12**
**8.59** **10.47**
**9.54** **11.42**
**10.41** **12.29**
**12.36** **14.20** па пятн., без прып. на п.п. Селівонаўка, Хмелеўка
**12.55** **14.43**
**13.40** **15.30**
**14.34** **16.23**
**15.31** **17.19**
**16.31** **18.16**
**17.20** **18.57** без прып. на п.п. Селівонаўка, Раманы, Анусіна, Хмелеўка, М.Мора
**17.50** **19.35**
**18.35** **20.21**
**19.16** **20.58** без прып. на п.п. Селівонаўка
**19.55** **21.40**
**20.46** **22.31**
**22.17** **23.56** без прып. на п.п. Селівонаўка, М. Мора

*Па выхадных днях*

**4.32** **6.17**
**5.30** **7.16**
**6.08** **7.49** без прып. на п.п.Селівонаўка, Крыніца, Ласі
**6.31** **8.19**
**7.26** **9.05** без прып. на п.п.Раманы, Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора
**8.23** **9.46** без прып. на п.п.Селівонаўка, Крыніца, Ласі, Раманы, Пралескі, Вязынка, Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора, Радыятарны
**8.50** **10.29** без прып. на п.п.Раманы, Пралескі, Анусіна, Хмелеўка
**9.48** **11.33**
**10.37** **12.11** без прып. на п.п. Раманы, Вязынка,Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора
**11.42** **13.30**
**12.36** **14.19** без прып. на п.п. Селівонаўка, Хмелеўка, М. Мора
**13.21** **15.06**
**14.13** **15.48** без прып. на п.п. Раманы, Вязынка, Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора
**15.00** **16.36** без прып. на п.п. Раманы, Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора
**15.29** **17.04** без прып. на п.п. Селівонаўка, Вязынка, Анусіна, Хмелеўка, Крыжоўка, М.Мора
**17.03** **18.36** без прып. на п.п. Селівонаўка, Крыніца, Раманы, Вязынка, Анусіна Хмелеўка, М. Мора
**17.53** **19.32** без прып. на п.п. Раманы, Вязынка, Хмелеўка, Зялёнае
**18.36** **20.11** без прып. на п.п. Раманы, Вязынка, Анусіна, Хмелеўка, Крыжоўка, М. Мора
**19.05** **20.40** без прып. на п.п. Раманы, Анусіна, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора
**19.52** **21.39** без прып. на п.п. М. Мора
**22.17** **23.56** без прып. на п.п. Селівонаўка, М. Мора

### Мінск-Маладзечна (адпраўленне-прыбыццё)

| Па рабочых днях | | Па выхадных днях | |
|---|---|---|---|
| 4.26 | 6.00 | 4.26 | 6.00 |
| 5.03 | 7.04 | 5.03 | 7.04 |
| 6.35 | 8.08 | 6.35 | 8.08 |
| 6.49 | 8.19 | 6.49 | 8.19 |
| 7.38 | 9.33 | 7.40 | 9.19 |
| 8.15 | 10.03 | 8.21 | 9.59 |
| 9.00 | 10.47 | 9.10 | 10.45 |
| 9.54 | 11.41 | 9.48 | 11.20 |
| 11.04 | 12.51 | 10.39 | 12.12 |
| 12.00 | 13.48 | 11.13 | 12.51 |
| 12.55 | 14.42 | 12.00 | 13.44 |
| 13.39 | 15.26 | 12.58 | 14.42 |
| 15.02 птн. | 16.40 | 13.56 | 15.32 |
| 15.40 | 17.24 | 14.55 | 16.39 |
| 16.15 | 18.02 | 15.45 | 17.21 |
| 16.56 | 18.52 | 16.15 | 17.59 |
| 17.44 | 19.29 | 16.41 | 18.13 |
| 18.30 | 20.14 | 17.35 | 19.08 |
| 19.16 | 21.00 | 18.38 | 20.12 |
| 20.13 | 21.57 | 19.14 | 20.51 |
| 21.14 | 22.58 | 20.03 | 21.37 |
| 22.15 | 23.59 | 21.14 | 22.58 |
| | | 22.15 | 23.59 |

### Маладзечна- Крулеўшчына

| | |
|---|---|
| 7.18 вых. | 9.38 |
| 8.32 | 13.13 да Полацка |
| 12.40 вых. | 14.59 |
| 20.44 | 23.15 |

### Крулеўшчына-Маладзечна

| | |
|---|---|
| 4.35 | 6.55 |
| 10.00 вых. | 12.20 |
| 15.21 вых. | 17.39 |
| 14.35 | 19.40 з Полацка |

### Маладзечна-Ліда

| | |
|---|---|
| 7.32 вых. | 9.04 да Багданава |
| 8.44 | 11.53 |
| 12.33 вых. | 15.42 |
| 14.29 па сер. | 16.37 да Юрацішак |
| 16.28 пт., вых | 18.34 да Юрацішак |
| 17.58 | 21.26 |
| 20.37 | 23.50 |

### Ліда-Маладзечна

| | |
|---|---|
| 3.55 | 7.10 |
| 9.26 вых. | 11.03 з Багданава |
| 9.02 | 12.27 |
| 12.03 вых. | 15.20 |
| 15.59 | 19.17 |
| 19.29 сер.,пт., вых. | 21.45 з Юрацішак |

### Маладзечна-Гудагай

| | |
|---|---|
| 8.35 | 10.20 |
| 13.21 вых. | 15.09 |
| 15.40 | 17.21 |
| 17.44 | 19.29 |
| 20.32 | 22.18 |

### Гудагай-Маладзечна

| | |
|---|---|
| 5.20 | 7.01 |
| 10.38 | 12.17 |
| 15.32 вых. | 17.16 |
| 17.39 | 19.20 |
| 19.51 | 21.32 |

*У раскладзе магчымыя змяненні. Сачыце за публікацыямі "Рэгіянальнай газеты". Даведачныя тэлефоны чыгуначнага вакзала Маладзечна 78423, 70848.*

## І прыйдзе лета

# Бяры скафандр, пайшлі на рэчку

***АШМЯНЫ. Гараджане кожнае лета думаюць, дзе адпачыць у выхадныя. Ёсць возера ў квартале Будаўнікоў. Але пляжная тэрыторыя неўпарадкаваная: няма туалета, раздзявальні. Праўда, прыватны прадпрымальнік паставіў ларок з цукеркамі, безалкагольнымі напоямі. Заасфальтавалі дарожкі.***

У мяжы горада– рака Ашмянка. На яе берагах жывёлагадоўчы комплекс "Ясная паляна", дрожджавы завод, кавава-цыкорыевы камбінат, сельгасхімія, мясакамбінат, сырзавод. Улезці ў ваду можна хіба што ў скафандры. Быў час, калі хацелі адкрыць на рацэ лодачную станцыю, сур'ёзна заняцца ачысткай вады.

Лацвей таму, у каго машына. Ён можа выехаць за горад на азёры Ольқавічы і Харанжышкі.

*Валянціна ДРАЗДОВА.*

# Вілейчанку ратавалі маладзечанцы

***МАЛАДЗЕЧНА. У рэанімацыйнае аддзяленне гарадской дзіцячай бальніцы штогод трапляюць каля 400 дзяцей.***

... Каб наведаць хворую бабулю, з вёскі Забор'е Вілейскага раёна ў Хаценчыцкую бальніцу другакласніца Люда Карповіч спяшалася разам са сваім дзедам на веласіпедзе. Лясная дарога была роўнай, але ж раптам нібы нейкая нядобрая сіла шалёна крутанула веласіпед убок і заваліла на дарогу разам з дзедам і дзевяцігадовай дзяўчынкай. Стары не ўтрымаў руль.

Калі ён падхапіўся, Люда ляжала пад веласіпедам і не магла падняцца. Каб хутчэй адвезці яе ў бальніцу, ўсхваляваны дзед спыніў на дарозе першую машыну. Так другакласніца з Вілейскага раёна трапіла ў рэанімацыйнае аддзяленне Маладзечанскай гарадской дзіцячай бальніцы, дзе ўрачы пачалі барацьбу за яе жыццё.

У выніку падзення ў Люды адбыўся разрыў ныркі, яна страціла вялікую колькасць крыві. Наступіла анемія.

Каб выратаваць школьніцу, патрэбна была складаная аперацыя па выдаленню ныркі. Яна працягвалася амаль дзве гадзіны, пасля чаго хворай падключылі апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх...

У хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы я ўвайшла ў той дзень, калі пасляаперацыйныя швы ў дзяўчынкі былі зняты.

–Хутка буду выпісвацца. Дома мяне чакаюць дзве малодшыя сястрычкі і брат,– радасна паведаміла Люда. –Шкада толькі, што ўрокі ў школе прыйшлося спыніць. У дзённіку ў мяне пяцёркі ды чацвёркі.

Дзякуючы намаганням медыкаў усё абышлося добра.

Па дадзеных рэанімацыйнага аддзялення бальніцы, маленькія пацыенты трапляюць сюды з чэрапна-мазгавымі траўмамі, апёкамі, а больш за ўсё– з атручваннямі. Па віне бацькоў, якія кладуць медыкаменты ў даступных месцах, дзеці атручваюцца ферацэронам, клафелінам, нейралептыкамі і псіхатропнымі лекавымі сродкамі.

У выніку канфліктаў з бацькамі падлеткі 12-14 год звяртаюцца да лекаў у мэтах самагубства, аб чым заўсёды трэба памятаць. Калі няшчасце ўсё ж адбылося, трэба хутчэй дастаўляць дзяцей у бальніцу, каб не спазніцца з дапамогай.

*Наталля РАБЧАНКА.*

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне дырэктару ВКФ "Фаварыт" Паўлу Іванавічу Карпіновічу з выпадку напаткаўшага гора– смерці маці.**

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае глыбокае спачуванне намесніку дырэктара ВКФ "Фаварыт" Ігару Сцяпанавічу Таранікаву з выпадку напаткаўшага гора– смерці бацькі.**

# Прагарама тэлебачання

## Понедельник, 3 июня

### Белорусское телевидение

**16.50** Родовод. **17.30** Сельчане. **18.00** Музыкальный антракт. **18.10** "Живая память Таганрога". Д/ф. **18.25** Экономикст. **18.35** MTV. **18.50, 0.05** Новости. **19.05** "Риск-версия". Телеигра. **19.40** "Это мы не проходили..." **19.55** Музыкальный антракт. **20.05** Острый угол. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.45** Спортивный телекурьер. **22.05** "Гулящая". Х/ф. **23.25** Театр песни Я.Поплавской и А.Тихановича.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **7.40** "Выборы-96". **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40** Новости. **8.15** "Секрет тропиканки". **9.05** Что? Где? Когда? **10.10** "Мойдодыр". М/ф. **10.30** Угадай мелодию. **11.10** ТРК "Мир". **14.20** "Звездный ковчег". М/ф. **14.35** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **14.45** Марафон-15. **15.00** Звездный час. **15.40** "Элен и ребята". **16.05** Джэм. **16.30** Семь дней спорта. **17.20** "Секрет тропиканки". **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.05** "Мы". **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** "Выборы-96". **20.55** Сериал "Виртуальная реальность". **21.55** Э.Радзинский. "Загадки истории". **22.50** Х/ф "Игла".

### Канал "Россия"

**6.15** "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. **6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.20** Выборы-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.30** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Деловая Россия. **8.05** Устами младенца. **8.35** Маски-шоу. **9.05** "Санта-Барбара". **9.55** Клип-антракт. **13.50** М/ф. **14.00** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **15.00, 16.20** Баскетбол. **16.50** "Девочка из завтра". **17.15** Клип-антракт. **17.25** L-клуб. **18.15** "Голосуй, или проиграешь". **18.30** Лидер-прогноз. **19.50** "Санта-Барбара". **20.40** От форте до пьяно. **21.25** Погода на завтра. **21.30** Церемония открытия VII кинофестиваля "Кинотавр". **22.40** "Деньги". Д/ф цикла "Время великих обманов". **23.45** Д.Верди. "Реквием". **0.25** Музыка всех поколений.

### Санкт-Петербург

**7.00** "Голосуй, или проиграешь". **11.55** и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". **12.05** "Первая любовь". **14.05** "Жара в Акапулько". **15.10** "Киномеханик". Т/ф для подростков (Дания). **15.50** Стиль жизни. **16.10** "Петровский портрет". Т/ф. **16.25** "Философия по Филу". **16.55** Спортивное обозрение. **17.05** Только без паники. **17.30, 18.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** Большой фестиваль. **19.05** "Первая любовь". **20.05** "От первого лица". **20.40** Телеслужба безопасности. **20.45** Что наша жизнь... **21.00** Спорт. **21.05** "Жара в Акапулько". **22.05** "На ночь глядя". **22.20** "Собачье сердце". Х/ф. 1-я с. **23.25** "Голосуй, или проиграешь".

### НТВ

**17.00** М/ф "Семейка Флинстоун". **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00, 23.00** "Сегодня". **18.35** Герой дня. **19.00** Х/ф "Побег изо льдов" (США). **20.45** Глас народа. **21.35** "Доктор Куин, женщина-врач". **22.30** Времечко. **23.20** Автогонки "Индикар".

## Вторник, 4 июня

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00, 15.00, 18.50, 0.00** Новости. **8.15** Авто-парк. **8.30** "Сказки-недосказки". Фильм для детей. **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы. **9.00** Бездельник. **9.30** "Кобра". **10.20** "Это мы не проходили..." **10.35** "Свинская медицина". Д/ф (Дания). **11.05** "Максимка". Х/ф. **12.20** "Чем богаты..." **12.35** Творцы. **13.30** "Маленькие трагедии". Х/ф. 1-я с. **15.15** "Флиппер". **15.40** М/ф. **15.55** Все про все. **16.25** "ШАНС". **16.55** Параграф. **17.20** Уроки Н.Новожиловой. **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** "Кому кони снятся во сне..." Д/ф. **18.15** Будьте здоровы. **18.25** Экономикст. **18.35** MTV. **19.05** "Кобра". **20.00** Вертикаль. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.05** Х/ф "Большой капкан, или Соло для кошки при полной луне". **23.40** Чемпионат Беларуси по спортивной гимнастике.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **7.40** "Выборы-96". **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.20** Новости. **8.15** "Секрет тропиканки". **9.05** "Мы". **9.45** Смехопанорама. **10.15** "Лесной концерт". М/ф. **10.30** Угадай мелодию. **11.10** ТРК "Мир". **14.20** "Звездный ковчег". **14.35** "Приключения капитана Врунгеля". **14.45** Кварьете "Веселая квампания". **14.55** Мультитроллия. **15.10** Волшебный мир, или Синема. **15.40** "Элен и ребята". **16.05** ...До шестнадцати и старше. **16.30** Семь дней спорта. **17.20** "Секрет тропиканки". **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.00** Тема. **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** "Выборы-96". **21.00** Все фильмы Рязанова. "Небеса обетованные". **23.25** Музыкальная программа "50Х50".

### Канал "Россия"

**6.15** "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. **6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.50** Выборы-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 24.00** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Деловая Россия. **8.05** "Лицо с обложки". **8.20** L-клуб. **9.05** "Санта-Барбара". **9.55** Клип-антракт. **13.50** М/ф. **14.00** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **15.00** М/ф. **15.20** Веселый ветер. **15.35** Там-там новости. **15.50** Месяцеслов. **16.20** Россия в лицах. **16.45** "Девочка из завтра". **17.10** М/ф. **17.20** Вас приглашает тележурнал "Здоровье". **17.30** Проще простого. **18.00** Ничего, кроме... **18.15** "Голосуй, или проиграешь". **18.30** Чрезвычайный канал. **19.50** "Санта-Барбара". **20.40** Джентльмен-шоу. **21.25** Погода на завтра. **21.30** Встретимся на "Уэмбли". **22.30** Дневник фестиваля "Кинотавр". **22.45** "Земля". Д/ф цикла "Время великих обманов". **23.20** Арт-обстрел. **0.15** Музыка всех поколений. **0.30** Звуковая дорожка.

### Санкт-Петербург

**7.00** "Голосуй, или проиграешь". **11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Информ ТВ "Сейчас". **12.05** "Первая любовь". **14.10** "Жара в Акапулько". **15.05** "Овертайм". **15.20** "Путешествие с "Песенкой". Т/ф. **15.50** Стиль жизни. **16.05** "Когда Лотта стала невидимой". **16.30** "Философия по Филу". **16.55** Спортивное обозрение. **17.05** Только без паники. **17.30, 18.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** Большой фестиваль. **19.05** "Первая любовь". **20.05** Выбираем президента. **20.35** Телеслужба безопасности. **20.45** Что наша жизнь... **21.00** Спорт. **21.10** "Жара в Акапулько". **22.05** На ночь глядя. **22.20** "Собачье сердце". Х/ф. 2-я с. **23.25** "Голосуй, или проиграешь".

### НТВ

**17.00** М/ф "Семейка Флинстоун". **17.30** "Состоятельная женщина: быть лучше". **18.00, 21.00, 23.00** "Сегодня". **18.35** Герой дня. **19.00** Х/ф "Умирать не страшно". **20.45** Доктор Угол. **21.35** "Доктор Куин, женщина-врач". **22.30** Времечко. **23.20** Большой ринг. **23.50** Меломания: "Рэйнбоу".

## Среда, 5 июня

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00, 15.00, 18.50, 0.20** Новости. **8.15** "Построить дом" (Беларусь), "Последнее предупреждение: урок Чернобыля" (США). Д/ф. **9.15** "Кобра". **10.05** "4:0 в пользу Танечки". Х/ф. **11.30** "Зорная ростань". **12.15** Видимо-невидимо. **13.15** "Маленькие трагедии". Х/ф. 2-я с. **15.15** "Флиппер". **15.40** "Телебом". **16.10** Концертный сезон. **17.00** Кредо. **17.20** Международная конференция "Чернобыль через 10 лет". **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** В плену времени. "Бродя по старым мостовым..." **18.25** Экономикст. **18.35** MTV. **19.05** "Кобра". **20.00** "Кто это?" Телеигра. **20.05** Супергол. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.05** "Королева Марго". Х/ф. 1-я с. **23.05** Королевская охота. **23.45** Чемпионат Европы по гандболу.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **7.40** "Выборы-96". **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45** Новости. **8.15** "Секрет тропиканки". **9.05** Тема. **9.45** В мире животных. **10.25** Угадай мелодию. **11.10** ТРК "Мир". **14.20** "Звездный ковчег". **14.35** "Приключения капитана Врунгеля". **14.45** Кактус и К. **14.55** До-ми-соль. **15.10** Зов джунглей. **15.40** "Элен и ребята". **16.05** Тет-а-тет. **16.30** Семь дней спорта. **17.20** "Секрет тропиканки". **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.05** "В поисках утраченного". Глен Миллер. **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** "Выборы-96". **20.55** "Русский регтайм. **22.50** Пресс-клуб.

### Канал "Россия"

**6.15** "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. **6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.55** Выборы-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 0.05** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Деловая Россия. **8.05** Проще простого. **8.35** От форте до пьяно. **9.05** "Санта-Барбара". **9.55** Клип-антракт. Г.Сукачев. **13.50** М/ф. **14.00** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **15.00, 16.20** Хоккей. Кубок Стэнли. **17.20** Вас приглашает фирма "Полет". **17.30** Своя игра. **18.00** "Темная" для Ирины Хакамады. **18.15** "Голосуй, или проиграешь". **18.30** Гражданская оборона. **19.50** "Санта-Барбара". **20.40** Сам себе режиссер. **21.25** Погода на завтра. **21.30** "Десять лет без права переписки". Х/ф. **23.20** "Труд". Д/ф цикла "Время великих обманов". **0.20** Музыка всех поколений.

### Санкт-Петербург

**7.00** "Голосуй, или проиграешь". **11.55** и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". **12.05** "Первая любовь". **14.05** "Жара в Акапулько". **15.05** Исторический альманах. "Порфироносные влюбленные". **15.50** Стиль жизни. **16.05** "Когда Лотта стала невидимой". **16.30** "Философия по Филу". **16.55** Спортивное обозрение. **17.05** Только без паники. **17.30, 18.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** Большой фестиваль. **19.05** "Первая любовь". **20.05** Выбираем президента. **20.35** Телеслужба безопасности. **20.45** Что наша жизнь... **21.00** Спорт. **21.05** "Жара в Акапулько". **22.05** На ночь глядя. **22.20** "Два шага до тишины". Х/ф. **23.25** "Голосуй, или проиграешь".

### НТВ

**17.00** М/ф "Семейка Флинстоун". **17.30** "Состоятельная женщина: быть лучше". **18.00, 21.00, 23.00** "Сегодня". **18.35** Герой дня. **19.00** Х/ф "На последнем дыхании" (США). **20.45** Доктор Угол. **21.35** "Доктор Куин, женщина-врач". **22.30** Времечко. **23.20** Автогонки "Кубок Ротманс". **23.50** Кафе Обломов.

## Четверг, 6 июня

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00**, 15.00, 18.50, 0.00 Новости. **8.15** "Памятник", "В тени липовых аллей". Д/ф. **8.35** М/ф. **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс средней школы. **9.00** "Диковыросший город". Д/ф (Финляндия). **10.00** "Кобра". **10.50** Королевская охота. **11.30** "Прикосновение". Д/ф. **11.40** "Каждый охотник желает знать..." Х/ф. **12.55** М/ф. **13.05** "Маленькие трагедии". Х/ф. 3-я с. **15.15** "Флиппер". **15.40** "Возвращение Креста". **16.05** Мультиклуб. **16.50** Арсенал. **17.20** Уроки Н.Новожиловой. **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** "Великое предназначение", "Приглашение". Д/ф. **18.25** Экономикст. **18.35** MTV. **19.05** "Кобра". **20.05** "Оскар". Телеигра. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Открытие IV Национального фестиваля белорусской песни и поэзии "Молодечно-96". Прямая трансляция. **22.55** "Крок". **23.25** Чемпионат Европы по гандболу.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **7.40** "Выборы-96". **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.10** Новости. **8.15** "Секрет тропиканки". **9.05** "В поисках утраченного". **9.45** "Клуб путешественников". **10.30** М/ф. **10.40** Смак. **11.10** ТРК "Мир". **14.20** "Звездный ковчег". **14.35** "Приключения капитана Врунгеля". **14.45** Лего-го!. **15.10** Тин-Тоник. **15.40** "Элен и ребята". **16.05** Рок-урок. **16.30** Семь дней спорта. **17.20** "Секрет тропиканки". **18.10** Час пик. **18.35** Лотто-Миллион. **19.00** "Один на один". **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** "Выборы-96". **21.00** Все фильмы Рязанова. "Предсказание". **23.20** "Обоз" Ивана Демидова. **0.25** "Кино, любовь и... фантазия" Киноконцерт.

### Канал "Россия"

**6.15** "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. **6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 24.00** Выборы-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 0.10** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Деловая Россия. **8.05** Своя игра. **8.35** Сам себе режиссер. **9.05** "Санта-Барбара". **9.55** Клип-антракт. Группа "Мечтать". **13.45** "Памятник". Д/ф. **14.00** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **15.00**, 16.20 Баскетбол. Финал чемпионата НБА. **15.50** Месяцеслов. **16.55** "Девочка из завтра". **17.20** Золотая визитка. **17.30** Проще простого. **18.00** Ничего, кроме... **18.15** "Голосуй, или проиграешь". **18.30** Мозговой штурм. **19.50** "Санта-Барбара". **20.40** Эх, дороги! **21.25** Погода на завтра. **21.30** "Сказ про то, как царь Петр арапа женил". Х/ф. **23.15** "Царь природы". Д/ф цикла "Время великих обманов". **23.45** Дневник кинофестиваля "Кинотавр". **0.25** Музыка всех поколений.

### Санкт-Петербург

**7.00** "Голосуй, или проиграешь". **14.55** и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". **15.05** "Первая любовь". **15.50** Стиль жизни. **16.10** "Жара в Акапулько". **16.55** Спортивное обозрение. **17.05** Только без паники. **17.30, 18.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** Большой фестиваль. **19.05** "Первая любовь". **20.05** "Я — гений". **20.40** Телеслужба безопасности. **21.00** Спорт. **21.05** "Жара в Акапулько". **22.05** На ночь глядя. **22.20** К 200-летию А.С.Пушкина. "И сердце трепетное вырвал..." **22.50** "Борис Годунов". Спектакль А.Эфроса. **0.20** "Голосуй, или проиграешь".

### НТВ

**17.00** М/ф "Семейка Флинстоун". **17.30** Х/ф "Дэзэл". 1-я с. (США). **18.00, 21.00, 23.00** "Сегодня". **18.35** Герой дня. **19.00** Х/ф "Пустельга". **20.25** Глас народа. **20.40** Доктор Угол. **21.35** "Доктор Куин, женщина-врач". **22.30** Времечко. **23.20** Х/ф "Стена".

## Пятница, 7 июня

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00, 15.00, 18.50, 0.00** Новости. **8.15** Концерт. **8.30** "Арап — моя судьба", "Дети Силезии". Д/ф. **9.20** "Кобра". **10.10** Барби-лото. **10.40** "Капитан". Х/ф. **11.10** Телевизионный Дом кино. **11.45** "Легенда о любви". Х/ф ("Узбекфильм"-Индия). **15.15** "Флиппер". **15.40** М/ф. **16.05** Творцы. Гитарист Валерий Живалевский. **16.50** "Крок". Провинция. **17.20** "Контрасты". **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** Олимпийский силуэт. **18.25** Экономикст. **18.35** MTV. **19.05** "Кобра". **20.05** "Международный курьер". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.05** "Королева Марго". Х/ф. 2-я с. **23.05** "12, или На ночь глядя". **23.25** Акколада. **0.15** Чемпионат Беларуси по спортивной гимнастике.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **7.40** "Выборы-96". **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00** Новости. **8.15** "Секрет тропиканки". **9.10** "Один на один". **9.50** "Играй, гармонь любимая!". **10.25** "Пока все дома". **11.10** ТРК "Мир". **14.20** "Старые знакомые". М/ф. **14.40** "Грибоедовский вальс" из цикла "Первая любовь". **15.40** "Элен и ребята". **16.05** "Злой мальчик". Телеспектакль. **16.30** Семь дней спорта. **17.20** "Секрет тропиканки". **18.15** Человек и закон. **18.45** "Поле чудес". **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** "Выборы-96". **21.05** "Детективное агентство "Лунный свет". **22.15** Взгляд. **23.10** Х/ф "Прощай, Китай".

### Канал "Россия"

**6.15** "Дон Кихот Ламанчский". М/ф. **6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.55** Выборы-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 0.05** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Деловая Россия. **8.05** Проще простого. **8.35** Джентльмен-шоу. **9.05** "Санта-Барбара". **9.55** Клип-антракт. **13.50** М/ф. **14.00** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **15.00, 16.20** Хоккей. Кубок Стэнли. **17.20** "Зорро". Х/ф. **18.15** "Голосуй, или проиграешь". **18.30** Вертикаль. **19.50** "Санта-Барбара". **20.40** Маски-шоу. **21.25** Погода на завтра. **21.30** "Прорва". Х/ф. **23.25** "Необыкновенный концерт". Д/ф цикла "Время великих обманов". **0.20** Репортер. **0.35** Волейбол. Россия — Китай. **1.35** Музыка всех поколений.

### Санкт-Петербург

**7.00** "Голосуй, или проиграешь". **11.55** и каждый час — Информ ТВ "Сейчас". **12.05** "Первая любовь". **14.05** "Жара в Акапулько". **15.05** Исторический альманах. "Несбывшаяся мечта Петра 1". **15.50** Стиль жизни. **16.05** "Большой день маленького Гарольда". Т/ф для детей (Дания). **16.30** "Философия по Филу". **16.55** Спортивное обозрение. **17.05** Только без паники. **17.30, 18.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** Большой фестиваль. **19.05** "Первая любовь". **20.05** "Без названия". **20.40** Телеслужба безопасности. **21.00** Спорт. **21.05** "Жара в Акапулько". **22.05** "Как быть любимыми". **22.20** "Паук". Х/ф. **24.00** "Голосуй, или проиграешь".

### НТВ

**17.00** М/ф "Семейка Флинстоун". **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00, 23.00** "Сегодня". **18.35** Герой дня. **19.00** Х/ф "Пиры Валтасара, или Ночь со Сталиным". **20.30** Глас народа. **20.45** Доктор Угол. **21.35** "Доктор Куин, женщина-врач". **22.30** Времечко. **23.20** Х/ф "Ночные глаза-1" (США). **0.55** Эротические шоу мира.

## Суббота, 8 июня

### Белорусское телевидение

**8.00, 21.00** Новости. **8.15** "Созвучие". **8.35** М/ф. **8.53** Выпускной экзамен по математике за курс базовой школы. **9.00** Здоровье. **9.30** Уроки Н.Новожиловой. **10.00** Все про все. **10.25** М/ф. **10.45** "Ералаш". **11.05** "Вертикаль". Х/ф. **12.20** Мир природы и увлечений. **13.10** Многоголосие. **13.45** Коллаж. **14.15** MTV. **15.00** "Мой Эдинбург". Видеофильм. Ч. 1-я. **15.45** Силач. **16.40** "Зорная ростань". **17.35** Белорусский дом. Художественно-публицистическая программа. **18.15** Галерея. **18.45** Фильм-балет "Страсти". **20.05** Банка комиксов. **20.40** Колыбельная. **21.45** "Дракула отец и сын". Х/ф (Франция). **23.40** Видимо-невидимо. **0.40** Темная комната.

### ОРТ

**7.00** Х/ф "Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо". **8.30** Легкая атлетика. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** "Не зевай!". **10.00** Утренняя почта. **10.35** Смак. **10.55** Московский Кремль. Оружейная палата. Передача 1-я. **11.20** "Ералаш". **11.40** Фильм "Вдовы". **13.15** Бомонд. **13.35** Автомобиль и я. **14.20** Фильм-сказка. "Чиполлино". **15.50** "Америка с М.Таратутой". **16.20** В мире животных. **17.25** Церемония открытия Чемпионата Европы по футболу. **17.45** Футбол. Англия-Швейцария. **19.45** Спокойной ночи, малыши!. **20.00** Время. **20.45** Что? Где? Когда? **22.05** Дни. **22.50** Х/ф "Бал вампиров".

### Канал "Россия"

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 23.10** Вести. **7.20** В этот день... **7.30** Всего понемногу. **8.20** М/ф. **8.30** "Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима". **8.45** Твои возможности, человек. **9.15** Устами младенца. **9.45** Путешествие "Инвайт". **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Парламентская неделя. **11.00** Доброе утро! **11.55** "Поэт в России — больше, чем поэт". **12.25** Клип-антракт. **12.30** Русское поле. **13.20** Де факто. **13.50** "Кесседи". Х/ф (Австралия). 3-я с. **14.50** Караоке по-русски. **15.10** Баскетбол. Финал чемпионата НБА. **16.40** Бесконечное путешествие. **17.20** Субботний вечер с Монтсеррат Кабалье. **18.15** Кому верить? **19.35** "Большие надежды". Х/ф (Великобритания). **21.45** Погода на завтра. **21.50** Клип-антракт. **22.05** Момент истины. **22.55** Дневник кинофестиваля "Кинотавр". **23.25** Зависит от тебя. **23.35** Программа "А".

### Санкт-Петербург

**8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55** Информ ТВ "Сейчас". **9.05** Страсти-мордасти. **9.20** Уик-энд с детективом. **9.50** М/ф. **10.05** "Честь имею". **10.25** "Непознанное". **11.05** Стиль жизни. **11.10** Ток-шоу "Наобум". О.Табаков. **11.40** По всей России. **11.55** Еще одна Россия. **12.20** "Забытые места". Т/ф. **12.40** "Старое танго". А.С.Пушкин. **13.05** Уик-энд с детективом. **13.20** "Кузьма Петров-Водкин". Т/ф. **13.35** "Дикари на мотоциклах". Х/ф (США). **15.05** Сокровища Петербурга. Эрмитаж. **15.20** Парадоксы истории. "Убийство Тиме". **15.50** Детское ТВ. **16.25** Зебра. **16.50** "Судьба, судьбы, судьбе". Б.Окуджава. **17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.35** "На бис". Зураб Соткилава. **19.10** "Блондинка за углом". Х/ф. **20.25** Волшебная сказка фонтанов Петродворца. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** Чемпионат мира по водно-моторному спорту "Формула-1".

### НТВ

**17.00** М/ф "Динозаврик по имени Динк". **17.30** "Дог-шоу. Я и моя собака". **18.00, 21.00** "Сегодня". **18.30** Хиты XX века: Глен Миллер. **19.00** Д/ф "Чекисты" (История КГБ). Фильм 1-й (Россия — Великобритания). **20.00** Намедни. **20.45** Куклы. **21.35** Х/ф "Как живете, караси?" **23.40** Третий глаз. **0.25** "Плейбой".

## Воскресенье, 9 июня

### Белорусское телевидение

**8.00** "Эмблема США", "Австралийские коала", "Реквием Голубому Даньюбу". Д/ф. **8.45** "Конан". М/ф. **9.10** MTV. **9.35** Про шахматы и шахматистов. **10.20** Вас вызывает Спортландия. **11.30** Вершина мира. **11.50** Все нормально, мама! **12.20** Туробъектив. **12.45** Творцы. **13.40** Автопарк. **13.55** Театр в кресле. **14.35** Мост. **15.00** Закрытие V фестиваля "Золотой Витязь". **15.30** "Дикий юг". Научно-популярный сериал. **16.00** "Мой Эдинбург". Видеофильм. Часть 2-я. **16.45** Поздравляем вас! Музыкальная программа. **17.40** Вершина мира. Продолжение игры. **18.00** Бездельник. **18.30** Х/ф "Храни меня, мой талисман". **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Спортивный телекурьер. **20.55** Новости-ТВ. **21.10** Ток-шоу "Карамболь". **21.45** Х/ф "Бедный богач" (Италия). **23.20** "Бархатный сезон".

### ОРТ

**7.00** Тираж "Спортлото". **7.10** "Проснись и пой". **7.50** Х/ф "Белый пудель". **9.00, 14.00** Новости. **9.15** Непутевые заметки. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Служу России!. **11.30** "Золотое кольцо". **12.00** Уральский Афон. **12.25** Очевидное-невероятное. **12.55** Смехопанорама. **13.25** "Тайны пиратских кладов". **14.20** Дмитрий Хворостовский... История одного концерта. **14.55** Как-то раз. **15.05** Клуб путешественников. **15.50** "Это было, было..." **16.15** Мультфейерверк. **17.20** Счастливый случай. **18.10** Песня-96. **19.00** Время. **19.35** Все фильмы Рязанова. "Гараж". **22.00** Футбольное обозрение. **22.30** Футбол. Сборная Дании — сборная Португалии.

### Канал "Россия"

**7.00** В этот день... **7.10** Всего понемногу. **8.00** Не вырубить... **8.15** Продленка. **8.30** Золотой ключик. **8.45** Гостиница деда Мазая. **9.00** Книжная лавка. **9.30** "Присяга". **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Русское лото. **10.55** Хоккей. Кубок Стэнли. **12.55** Клип-антракт. **13.00, 23.30** Вести. **13.20** Лицо с обложки. **13.35** "Кесседи". Х/ф. 4-я с. **14.30** Империя игр. "На воде, на земле и в воздухе". **15.30** М/ф "Чокнутый", "Аладдин". **16.25** Футбол. Испания-Болгария. **18.25** Дневник чемпионата Европы по футболу. **18.55** Футбол. Германия-Чехия. **20.55** Погода на завтра. **21.00** Зеркало. **21.55** "К-2" представляет: "Уловка-22". **22.50** Зависит от тебя. **23.00** У Ксюши. **23.45** Рек-тайм.

### Санкт-Петербург

**9.25** "Барышня-крестьянка". Телеспектакль. **10.20** Стиль жизни. **10.35** Весь этот цирк. **10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55** Информ ТВ "Сейчас". **11.05** Личное дело. **11.35** Еще одна Россия. **12.20** Овертайм. **12.35** Храм. **13.10** Гости "Балтийского дома". **13.40** "Африка как она есть". Т/ф (США). **15.05** "Шедевры хореографии". Театр М.Петипа. **15.55** Детское ТВ. **17.00** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.00, 19.05** Чемпионат мира по водно-моторному спорту "Формула-1". **19.30** "Хаги-Траггер". Х/ф (США, Россия). **21.05** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.15** Гигант-шоу. А.Укупник.

### НТВ

**17.00** "Полицейский Кэттс и его собака". **17.30** Телеигра "Сто к одному". **18.00** "Сегодня". **18.30** Музыкальная программа "Овация". **19.00** Д/ф "Чекисты". Фильм 2-й. **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Молчание ягнят" (США). **23.20** Империя зрелищ. Группа "Агата Кристи". **0.25** Автогонки "Индикар".

